*Жыве Беларусь!*



# БЕЛАРУС

№ 463 • Чэрвень 1999 г.
Год выд. 49

BIELARUS / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A.

## СУСТРЭЧА З АЙЦОМ АЛЯКСАНДРАМ НАДСОНАМ

5 чэрвеня ў Фундацыі імя П. Крэчэўскага (Нью Ёрк) адбылася сустрэча з апостальскім візытатарам для беларусаў-каталікоў айцом Аляксандрам Надсонам — чалавекам, ведамым і на эміграцыі, і на бацькаўшчыне як шчыры душпастыр, адданы беларускі патрыёт, нястомны руплівец нацыянальнае справы, шматгадовы кіраўнік Беларускага Музэю й Бібліятэкі імя Францішка Скарыны (т. зв. «Скарынаўкі») у Лёндане.



*На здымку (зьлева): Л. Юрэвіч, Ф. Бартуль, а. А. Надсон, праф. Т. Бэрд у Фундацыі імя П. Крэчэўскага.*

Спаткацца з а. Надсонам — грэка-каталіцкім сьвятаром — прыйшлі людзі розных вызнаньняў, рознага веку, прадстаўнікі паваеннае эміграцыі й новапрыбылыя. Прагучалі дзясяткі пытаньняў. Падамо толькі асобныя моманты гутаркі.

Адкрыў сустрэчу старшыня Нью Ёрскага Аддзелу БАЗА сп. Віталь Зайка, пасьля чаго са словамі вітаньня выступіў дырэктар БІНІМу др. Вітаўт Кіпель: «Мы з айцом Надсонам — прадстаўнікі аднаго пакаленьня, разам улучыліся ў беларускі рух. Атрымаўшы дыплём у дакладных навуках — што на Захадзе было дастаткова складана, — ён вырашыў прысьвяціць жыцьцё духоўнаму служэньню. Аднак і на гэтай сьцяжыне не забываўся на навуковую дзейнасьць, мае дзясяткі публікацыяў, аўтар кніг. А ад 90-га году зачаў арганізоўваць транспарты з мэдыкамэнтамі для ахвяраў Чарнобыля на Беларусі. Айцец Аляксандар падзіўляе сваёй энэргіяй, працуючы адзін за дзясяткі асобаў на самых розных дзялянках: рэлігійнай, грамадзкай, навуковай, гуманітарнай».

**Айцец А. Надсон:** У часе майго апошняга побыту ў Менску са мною здарыўся не зусім звыклы выпадак: да мяне зьвярнуўся — ведама, па-расейску — чалавек і запытаўся дарогі; я адказаў, што я нетутэйшы. Пачуўшы, што я гавару па-беларуску, чалавек абурыўся:

— Ты что — БНФ какой-то?!

Я адказваю, што прыехаў з-за мяжы. На гэта была такая рэакцыя:

— Ты что — с Позняком удрал?!

Я расказаў пра гэты выпадак, каб паказаць, што робіць сёньняшняя ўлада ў Беларусі — яна разьдзяляе людзей: расейскамоўных настройвае супраць беларускамоўных, сялянства супраць інтэлігенцыі, старэйшых супраць маладых. І гэтая палітыка разьдзяленьня зыходзіць ад таго, хто мусіць выступаць сымбалем і гарантам адзінства нацыі.

Ёсьць падзел і рэлігійны: Лукашэнка абапёрся на праваслаўных, і такім чынам праваслаўе робіцца прыладаю ў руках палітычных уладаў. Сымбіёз улады й праваслаўнае царквы — шкодны для самой царквы, бо праз гэта яна траціць сваю незалежнасьць.

Аднак ёсьць нагода ня толькі для засмучэньня, але й для аптымізму: за апошні час у Беларусі зьявілася шмат незалежных пэрыёдыкаў, у недзяр-

*(Працяг на с. 2)*

## УЗЬНІКЛА НОВАЯ ДЭМАКРАТЫЧНАЯ СІЛА

5—6 чэрвеня пад Менскам сабралася каля 180 чалавек — тыя, хто зачынаў сучасны беларускі нацыянальны рух на пачатку—у сярэдзіне 80-х гадоў, яшчэ да абвешчаньня Гарбачовым «перабудовы».

Удзельнікі зьезду стварылі новую нацыянальную арганізацыю — Асамблею Дэмакратычных Няўрадавых Арганізацыяў, як сказаў адзін зь яе заснавальнікаў Віктар Івашкевіч, для таго, каб дапамагчы маладым актыўным палітыкам атрымаць лідэрства ў дэмакратычным руху ў Беларусі.

Быў абраны аргкамітэт Асамблеі, у які, апроч В. Івашкевіча (намесьнік старшыні Кангрэсу Дэмакратычных Прафсаюзаў), увайшлі Вінцук Вячорка (намесьнік старшыні БНФ), Алесь Бяляцкі (старшыня Праваабарончага Цэнтру «Вясна-96»), Алесь Суша (бізнэсовец), Сяржук Вітушка (кіраўнік Беларускага Згуртаваньня ў Летуве).

Днямі на Інтэрнэце зьявілася бачына Асамблеі: http://ngo.unibel.by/bel.

## СЭНСАЦЫЯ

### ПАЭТ НЯКЛЯЕЎ — ЭМІГРАНТ

20 чэрвеня, знаходзячыся ў Варшаве, старшыня Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі Ўладзімер Някляеў афіцыйна абвесьціў, што вырашыў не вяртацца на Беларусь. Сам пісьменьнік тлумачыць такое рашэньне абыякавасьцю ўладаў да беларускай мовы й культуры.

Аднак улады й асабіста прэзыдэнт Лукашэнка праяўлялі ня проста абыякавасьць, але варожасьць да ўсяго беларускага зь першага дня кіраваньня новай адміністрацыі — на працягу пяці гадоў. Няўжо ўвесь гэты час У. Някляеў заставаўся ў аблудзе?

*Рэдакцыя плянуе працягнуць тэму ў наступным нумары.*

## НЯШЧАСЬЦІ НА ВАДЗЕ

За першыя два тыдні чэрвеня на Беларусі патанулі 133 чалавекі, да чаго прывяло незвычайна гарачае надвор'е.

### НІКОЛІ НЕ ЗАБЫВАЙСЯ:
### КАМУНІЗМ ЗЬНІШЧЫЎ 140 МІЛЬЁНАЎ

**Інфармацыя ад Камітэту Паняволеных Народаў, Інк.**

**11—18 ліпеня 1999 году пройдзе**

### 41-ы ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ

**Праграма Тыдня:**

**11 ліпеня, нядзеля**

| | |
|---|---|
| 9:00 am | Збор на Готэл Плаза (Hotel Plaza, E59 Str. & 5 Ave., Manhattan) |
| 10:00 am | Сьвятая Літургія ў Катэдры сьв. Патрыка |
| 11:00 am | Марш па 5-й авэню да скрыжаваньня з E72-й вуліцай да ўваходу ў Цэнтральны Парк |
| 12:00 noon | Афіцыйнае адкрыцьцё Тыдня Паняволеных Народаў (Цэнтральны Парк, адкрытая сцэна) |

**15 ліпеня, чацьвер**

| | |
|---|---|
| 11:00 am | Дэманстрацыя перад будынкам ААН (E42 Str. & 1 Ave., Manhattan) |

**18 ліпеня, нядзеля**

| | |
|---|---|
| 2:00 pm | Цырымонія закрыцьця Тыдня, малебен у эстонскай лютэранскай царкве сьв. Эмануэля (122 E88 Str. & Lexington Ave., Manhattan) |

**CAPTIVE NATIONS COMMITTEE, Inc.**
**P.O. Box 540, Gracie Station, New York, N.Y. 10028-0005**

**20 ліпеня 1999 году А. Лукашэнка перастае быць прэзыдэнтам Беларусі.**

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю $30 на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.
*Перадрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.*

## ХРОНІКА

### МАНГЭТАН, НЬЮ ЁРК

6 чэрвеня ва ўкраінскай уніяцкай царкве сьв. Юр'я на E7 вуліцы айцом А. Надсонам была адпраўленая багаслужба. Увесь чын вёўся ў беларускай мове. Скончылася служэньне адсьпяваньнем гімну «Магутны Божа».

***Украінскім царкоўным уладам належыцца шчырая падзяка за дазвол правесьці багаслужбу.***

*

18 траўня на арганізацыйным сходзе Таварыства сьв. Яна Хрысьціцеля сябра БІНІМу праф. Т. Бэрд прачытаў лекцыю «Забытыя хрысьціяне Беларусі».

### БРУКЛІН, НЬЮ ЁРК

У нядзелю 6 чэрвеня Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква адзначала вялікае сьвята — дзень Усіх Сьвятых. У Саборы сьв. Кірылы Тураўскага адбылася літургія, якую адправіў Я. М. Мітрапаліт Ізяслаў, а дапамагаў яму а. архімандрыт Аляксей.

Пасьля літургіі была адслужаная жалобная паніхіда па ўсіх загінуўшых у Менску падчас ганебнага шоў, якое зладзілі 30 траўня, нягледзячы на вялікае Сьвята — Сёмуху (Тройцу). З запаленымі сьвечкамі, у смутку, з болем у сэрцы ўсе вернікі памінулі бязьвінных ахвяраў.

На літургіі й паніхідзе прысутнічалі старшыня Галоўнае Ўправы БАЗА сп. Антон Шукелойць і старшыня Нью Ёрскага Аддзелу БАЗА сп. Віталь Зайка.

Пасьля набажэнства ўсе вернікі й госьці былі запрошаныя сястрынствам у парафіяльную залю на каву. Падчас пачосткі адбылася гутарка, у якой удзельнічалі Мітрапаліт Ізяслаў, старшыня ГУ БАЗА сп. А. Шукелойць, архімандрыт Аляксей, сакратар Кансысторыі БАПЦ сп. Барыс Данілюк, старшыня царкоўнае рады сп. Расьціслаў Гарошка.

Сп. А. Шукелойць меў нагоду расказаць пра будучае адзначэньне 50-х угодкаў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.

Тым часам ідзе падрыхтоўка да юбілею, плянуецца выстава архіўных дакумэнтаў і выданьне кнігі пра БАЗА.

**А. Тальянскі**

### ПРЫВАТНАЯ БІБЛІЯТЭКА ПРАФ. СЯДУРЫ

12—13 чэрвеня дэлегацыя БІНІМу наведала дом вядомага беларускага празаіка, прафэсара Тройскага Політэхнічнага Інстытуту Уладзімера Сядуры (пісаў пад псэўданімам Глыбінны) у горадзе Трой, непадалёк Олбані, штат Нью Ёрк.

Пасьля сьмерці праф. Сядуры ў 1995 г. і трагічнае гібелі ягонай жонкі Ірэны на пачатку 1999 г. дом разам з найбагацейшаю бібліятэкаю стаўся нежылы. Дачка праф. Сядуры зьвярнулася да кіраўніцтва БІНІМу з прапановаю перадаць беларускай супольнасьці ў Амэрыцы кнігі з бацькавай бібліятэкі.

У выніку гэтага ў Фундацыю імя П. Крэчэўскага былі перададзеныя дзясяткі каштоўных кніг па беларускім мовазнаўстве й літаратуры, выдадзеныя пераважна ў 1950—70 гады ў БССР, а таксама некалькі асобнікаў выданьняў міжваеннага часу.

***Кіраўніцтва БІНІМу выказвае ўдзячнасьць дачцэ прафэсара Ўладзімера Сядуры, Соні Стар, за шчодры дар — кнігі з бацькавай калекцыі.***

### УНАРМАВАНЬНЕ ТАРАШКЕВІЦЫ

Нефармальная лінгвістычная грамадзкасьць Беларусі працягвае працу над унармаваньнем беларускага правапісу паводле граматыкі Браніслава Тарашкевіча. Каардынуе гэтую дзейнасьць вядомы палітык і мовазнаўца Вінцук Вячорка.

Яшчэ ў 1994 годзе на замову БІНІМу ён падрыхтаваў праект удакладненьня тарашкевіцкага правапісу. Гэты праект быў надрукаваны ў часапісе «Спадчына» ў 1995 годзе й стаўся асноваю для далейшага разгляду праблемы.

6—7 сьнежня 1998 году ў Празе пры садзеяньні Беларускае Рэдакцыі Радыё «Свабода» прайшла канфэрэнцыя, прысьвечаная азначанаму пытаньню. Гэтак быў запачаткаваны цэлы шэраг рэгулярных навуковых нарадаў дзеля ўдакладненьня дарэформенага правапісу, у якіх бралі ўдзел знаны лінгвіст, былы пасол Рэспублікі Беларусь у Нямеччыне Пётра Садоўскі, таленавіты літаратар Уладзімер Арлоў, рэдактар незалежнай выдавецкай кампаніі «Тэхналёгія» Зьміцер Санько ды інш. Свае заўвагі й прапановы даслалі зацікаўленыя практыкі й навукоўцы, сярод якіх — прафэсар Гарадзенскага Ўнівэрсытэту Павел Сьцяцко, выкладчык Гомельскага Ўнівэрсытэту Зьміцер Паўлавец ды інш.

Па выніках гэтае працы яшчэ сёлета фонд «Наша Ніва» плянуе выдаць брашуру «Беларускі правапіс».

Трэба адзначыць, што апошнім часам пазыцыі тарашкевіцы ў Беларусі ўмацоўваюцца: амаль усе незалежныя беларускамоўныя выданьні, што ўзьніклі за апошнія гады, карыстаюцца менавіта гэтым варыянтам правапісу.

Прызнаньне рацыі рэдакцыі газэты «Наша Ніва» ў леташнім судовым працэсе сталася маральнаю перамогаю для ўсіх незалежніцка-дэмакратычных сілаў і стымулявала працэс вяртаньня да клясычнага правапісу сярод недзяржаўных структураў нават па-за межамі Беларусі. Гэтак Беларускае Гістарычнае Таварыства (Польшча) зьвярнулася да ўсіх беларускіх арганізацыяў на Беласточчыне з адозваю: «прыняць для штодзённага карыстаньня ва ўсялякай пісьмовай практыцы правапіс граматыкі Б. Тарашкевіча».

**З. С.**

### КГБ НА ІНТЭРНЭЦЕ

На безыменнай бачыне ў Інтэрнэце зьявіўся сьпіс курсантаў Менскай Школы КГБ. Падаюцца прозьвішчы, імёны й імёны па бацьку, а таксама даты нараджэньня й адрасы 67 маладых людзей. Цікава, што каля паловы курсантаў фармальна лічацца «временно неработающими», а некаторыя фармальна зьяўляюцца навучэнцамі іншых, «бяскрыўдных» установаў.

### ПРЫСУДЫ

На 11, 5 і 4 гады асуджаныя трое мужчынаў, зьвінавачаных у забойстве лукашэнкаўскага функцыянэра Мікалуцкага. Ніводзін з асуджаных не прызнаў свае віны.

21 чэрвеня на 1 год пазбаўленьня волі (умоўна) асуджаны старшыня Гомельскага аддзяленьня Беларускага Гельсынскага Камітэту Яўген Мурашка за ўдзел у працы рэгіянайнай выбарчай камісіі 16 траўня ў якасьці старшыні.

### НАШЫЯ Ў ЛІДЗЕ

17 чэрвеня пасьля футбольнага матчу паміж мясцовай і маладэчанскай дружынамі заўзятары (фаны) лідзкай каманды прайшлі калёнаю па вуліцах гораду пад бел-чырвона-белымі сьцягамі й былі заатакаваныя міліцыяй; некалькі чалавек (у тым ліку й лідэр фанклюбу, адзін з кіраўнікоў мясцовага аддзелу «Маладога Фронту» Алесь Ганевіч) былі арыштаваныя.



### СУСТРЭЧА З а. А. НАДСОНАМ

*(Працяг з с. 2)*

жаўных выдавецтвах выходзіць мноства кніг. Напрыклад, незалежнае выдавецтва «Тэхналёгія» рыхтуе да друку «Матэматычную энцыкляпэдыю» на беларускай мове! Адмаўляючы беларускаму друку ў фінансаваньні, Лукашэнка дапамог яму стаць на ўласныя ногі, а не чакаць дзяржаўных датацыяў. Для пасьпяховага разьвіцьця беларускае культуры было б дастаткова, каб дзяржава ня тое што не дапамагала, а хоць бы не перашкаджала.

З 1992 году ў нас ажыцьцяўляецца навучальны праект: маладыя людзі зь Беларусі — і хлопцы, і дзяўчаты — атрымваюць багаслоўскую адукацыю, каб пазьней, вярнуўшыся на бацькаўшчыну, паслужыцца справе. Я сьвятар шырокіх поглядаў і лічу, што й жанчынам павінна быць месца ў царкве. Адна з асобаў, што скончыла студыі ў Лёндане, цяпер знаходзіцца ў Парыжы й працуе над падрадковым перакладам Бібліі з габрайскае мовы.

Што да гуманітарнае дзейнасьці, то цяперашні рэжым у Беларусі стварыў такія ўмовы, што вазіць лекі стала немагчыма. Мы можам толькі арганізоўваць прыезд дзяцей у Брытанію на аздараўленьне, на апэрацыі. Аднак Лукашэнка кажа, што ня трэба, каб дзеці выяжджалі за мяжу, бо гэта іх дэмаралізуе.

**Адказы на пытаньні прысутных.**

***Пытаньне:** Якія выдавецкія праекты Вы цяпер маеце?*

**Адказ:** Па-першае, літургічныя тэксты. Усе яны перакладзеныя на беларускую мову й зацьверджаныя найвышэйшымі царкоўнымі ўладамі. Да пачатку трэцяга тысячагодзьдзя мы хацелі б выдаць малітоўнік для вернікаў і служэбнік для сьвятароў. Мае студэнты думаюць аднавіць выданьне часапісу «Божым Шляхам» ці нешта накшталт таго.

Да мяне зьвярнулася кіраўніцтва Беларускага Калегіюму — першай незалежнай навучальнай установы ў Беларусі, у якой я бачу зародак сапраўды беларускага, сапраўды незалежнага ўнівэрсытэту — з прапановаю выдаваць навуковы часапіс па-беларуску й па-ангельску.

*Ці каталіцкі касьцёл і надалей застаецца прыладаю палянізацыі беларусаў-каталікоў?*

Сёньня касьцёл больш як на палову — беларускі. Напрыклад, у сталіцы 5 каталіцкіх парафіяў, і толькі ў адной зь іх імша служыцца па-польску, у астатніх — па-беларуску, а ў катэдры ў ня-

## АЛЯКСАНДАР СЯРГЕЕВІЧ — АПОШНІ АРГУМЭНТ АЛЯКСАНДРА РЫГОРАВІЧА?

Цяперашнія ўлады Беларусі пачалі раскручваць новы псыхоз: на дзяржаўную аснову ставіцца адзначэньне 200-годзьдзя з дня народзінаў расейскага паэта Аляксандра Пушкіна.

Да «слаўнае даты» рыхтуецца процьма імпрэзаў — канфэрэнцыяў, вечарынаў, выставак. Цэнтральнаю падзеяй сьвяткаваньняў мусіць стацца адкрыцьцё помніка Пушкіну ў цэнтры Менску.

Згрувасьціць помнік мяркуецца за «зьмешаны капітал»: частку дае расейскі бок, а частку беларускі. Паказальна, што беларускі бок выдаткуе на гэты праект тыя фінансавыя сродкі, якія пачаткова выдзяляліся на пабудову помніка Францішку Скарыну.

Выдавецтвы Беларусі ўжо выпусьцілі 10 кніг, прысьвечаных юбілею. Неўзабаве выйдзе падарункавае выданьне галоўнага твора Пушкіна «Яўгені Анегін» на мове арыгіналу й у беларускім перакладзе аўтарства Аркадзя Куляшова зь віншавальным тэкстам прэзыдэнта; кніга будзе ўручацца сёлетнім выпускнікам сярэдніх школаў.

Паддзяржаўныя пэрыёдыкі навыперадкі кінуліся сьпяваць асанну расейскаму шавіністу, які ўслаўляў разгром паўстаньня 1831 году. Нават прыстойны «ЛіМ» выдаў «пушкінскі» нумар (№22), у якім сярод іншага знаходзім: «Пушкін і Міцкевіч — дзве галіны аднаго славянскага дрэва, на якім ёсць месца і знакамітым беларусім песьнярам Янку Купалу, Якубу Коласу» (артыкул «Галоўная галіна славянскага дрэва»).

Калі аўтар публікацыі ў «ЛіМе» прыпадабняе паэтаў да сукоў, то выданьне Беларускае Асацыяцыі Беларусістаў «Кантакты і дыялогі» (№5) вуснамі Таісы Бабковай указвае на салярнасьць постаці юбіляра: «А. С. Пушкін — сонца не толькі рускай, але і ўсёй славянскай паэзіі» (артыкул «След



Беларусі ў пушкінскім жыцьці»).

Вакханалія пушкінафільства ў Беларусі, апроч шматкалёрных эмоцыяў, выклікае й цалкам рацыянальную выснову. Дагэтуль інтэграцыйныя ініцыятывы Лукашэнкі, хоць і грунтаваліся на «каўбаснай» настальгіі па Савецкім Саюзе, мелі самастойны характар, у іх адчувалася фармальная навізна, абвостраная папулісцкасьць. На фоне розных рэфэрэндумаў, сэлектарных нарадаў, пасяўных кампаніяў — «пушкінская» карта выглядае бляклаю, другаснаю: ініцыятыва надзвычай шумнага адзначэньня юбілею належыць не Лукашэнку, а расейскім уладам, якія спрабуюць патапіць у юбілейных пырсках кліко (віно, якому аддаваў перавагу Анегін) клопаты сваіх абыватаяў перад абліччам новае эканамічнае крызы. А наш Лукашэнка, магчыма, расчараваўшыся, у мэтадах савецкіх палітрукоў, вырашыў прымазацца да экзатычнага шарму нашчадка эфіёпскіх валадароў. **Дамінік Лось**

## АНОНСЫ

**Знаходзіцца ў друку чарговы, 23-і, нумар выданьня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва «Запісы».**

Адкрываецца нумар працаю прафэсара Кўінз Каледжу (Нью Ёрк) Томаса Э. Бэрда «Злучаныя Штаты Амэрыкі й эміграцыйная тэматыка ў публіцыстыцы й паэзіі «Нашай Нівы». Супрацоўніца Нью Ёрскае Публічнае Бібліятэкі Людмыла Шпылёва расказвае пра акварэльныя працы беларускага мастака Эраста Сукоўскага, якія захоўваюцца ў Бібліятэцы.

Матэрыялам для лінгвістычнага дасьледаваньня Зьміцера Саўкі паслужыў неапублікаваны дыялектны слоўнік, складзены вядомым беларускім літаратарам Васілём Стомам: артыкул «Балтызмы ў «Слоўніку Дзісьненшчыны» В. Стомы-Сініцы».

Асобнае месца прысьвечанае ў нумары Народнаму Пісьменьніку Беларусі Васілю Быкаву, якому 19 чэрвеня споўнілася 75 гадоў. Публікуюцца два новыя творы пісьменьніка — «хрэстаматыйная казачка для маленькіх «Хутаранцы» й «гістарычнае апавяданьне «Эквівалент», а таксама два інтэрвію з В. Быкавым, узятыя доктарам Унівэрсытэту ў Ватэрлё (Канада) Зінаю Гімпелевіч у 1995 і 1998 гадох.

Чытачы «Запісаў» пазнаёмяцца з новым імем у беларускай паэзіі — Янкам Палонным. Ён паўтарыў лёс соцень беларусіх хлопцаў: паходзіў з Заходняе Беларусі, з пачаткам II Сусьветнае вайны быў змабілізаваны ў польскае войска, трапіў у нямецкі палон, у 1943 г. працаваў у Беларускім Камітэце Самапомачы ў Бэрліне. У студзені 1944 г. паехаў у Беларусь. З таго часу ніякіх зьвестак пра яго не было. Аднак засталіся дзясяткі вершаў, што знайшлі месца ў актуальным нумары «Запісаў».

Яшчэ адзін мастацкі твор — апошняе зь ведамага нам са спадчыны знанага на эміграцыі літаратара Ўладзімера Сядуры-Глыбіннага — апавяданьне «Сьвітанак над Лахваю», прысьвечанае постаці выдатнага дзеяча Адраджэньня Міколы Гусоўскага.

У нетрадыцыйным для «Запісаў» жанры гісторыка-літаратурна-публіцыстычнага дасьледаваньня выступаюць Алеся Сёмуха й Юрка Васілеўскі (публікацыя «Літаратурны акалот: Антон Беларусаў-Скалка»).

Др. Янка Запруднік рэцэнзуе кнігу Д. Фурмана «Белоруссия и Россия: общества и государства», др. Вітаўт Кіпель — кнігу «Беларуская думка XX ст.». Заканчваецца нумар хронікаю навукова-культурнага жыцьця за 1993—1995 гады.

**ARCHE — новы беларускі культурны часапіс, што выходзіць у Менску.** Толькі зьявіўшыся, ён адразу стаў адным з найболыш чытаных выданьняў дзеля сваёй нон-канфармісцкай пазыцыі й, мабыць, найбольшага спасярод беларускіх выданьняў імкненьня тры-

*(Працяг на с. 4)*

дзелю — і на лаціне.

Па-беларуску выходзяць дзясяткі кніжак, паштовак, выдаюцца пэрыёдыкі «Наша вера», «Ave Maria», «Каталіцкія навіны» (усе Менск), «Царква» (Берасьце), «Дыялог» (Баранавічы) ды інш.

Вядома, сярод ксяндзоў яшчэ нямала зацятых польскіх шавіністаў. Звычайна гэта людзі старэйшага веку, мясцовага паходжаньня. А вось маладыя сьвятары з самой Польшчы, асабліва з далёкіх ад «крэсаў» ваяводзтваў, прыяжджаюць на парафіі, вывучваюць беларускую мову й служаць на ёй. Так ёсьць у Бабруйску, Віцебску, Гомлі.

Апошнім часам зьявіліся маладыя ксяндзы беларускага паходжаньня — выпускнікі Гарадзенскай, Рыскай сэмінарыяў. Яны валодаюць беларускай мовай і правяць па-беларуску.

*Якая сытуацыя на Беларусі з уніяцкай царквою?*

Гэта адбылося ў Менску ў часе майго першага візыту на Беларусь. Я выйшаў з вагона цягніка а 5-й гадзіне раніцы. Да мяне падышоў гурт маладых людзей: «Мы — уніяты». Такім быў мой першы кантакт зь беларускімі ўніятамі. Гэтым я хачу падкрэсьліць, што ўніяцтва ў сёньняшняй Беларусі — не накінутае, яно ідзе зьнізу. І што яшчэ важна, усе ўніяты на Бацькаўшчыне — беларусы.

Цяпер на Беларусі 11 уніяцкіх парафіяў: у Менску (дзьве), у Полацку (тамсама існуе й уніяцкі манастыр), у Баранавічах, Берасьці, Віцебску, Гомлі, Горадні, Магілёве, Івацэвічах, Лідзе.

*Як выглядае справа з герархіяй і кадрамі?*

Ачаляе грэка-каталіцкую царкву на Беларусі архімандрыт Гаек, паляк з паходжаньня, які стала жыве ў Любліне. Такое становішча нельга лічыць здаровым. Я ўважаю, што трэба было б стварыць для ўніятаў асобную эпархію ці экзархат. Аднак на гэта ў Рыме не стае добрае волі. І мне шкада тых людзей, што прыйшлі да нас, — яны не знаходзяць таго, чаго хацелі, і, зьняверыўшыся, адыходзяць.

Праблема з кадрамі — таксама вельмі вострая. Летась мы перажылі вялікую страту: памёр айцец Ян Матусевіч. Гэта быў прыроджаны сьвятар, заўсёды зь людзьмі й для людзей. Яго нам вельмі не стае.

Праўда, нядаўна адбылося новае высьвячэньне. Але гэта адбываецца рэдка, бо на падрыхтоўку сьвятара патрабуецца найменш 6 гадоў.

Што да беларускага каталіцкага сьвятарства на эміграцыі, то за 50 гадоў не было ніводнага сьвятарскага пакліканьня. А некалі нас выехала на Захад ажно 13 асобаў.

*Вядома, што існаваў праект пабудовы грэка-каталіцкай царквы ў Менску.*

Сапраўды, пачаткова ўлады далі зямлю пад будоўлю, але потым аднялі. Такім чынам, ніводная ўніяцкая парафія ня мае свае царквы. Звычайна парафіі купляюць дамы й прыстасоўваюць іх пад патрэбы багаслужбы.

*Як Вы ацэньваеце прэзыдэнцкія выбары, што прайшлі ў Беларусі?*

Выбары паказалі, што людзі настолькі хочуць зьменаў, што не баяцца паказаць сваю нязгоду з уладамі.

**Занатаваў Зьм. Саўка**

## БЕЛАРУСАВЕДА НА КАНФЭРЭНЦЫІ АСАЦЫЯЦЫІ СЛАВІСТАЎ КАНАДЫ

3—6 чэрвеня ў рамках Кангрэсу Навуковых Таварыстваў Канады ў Шэрбруцкім Унівэрсытэце (правінцыя Квэбэк) адбылася чарговая канфэрэнцыя Канадыйскай Асацыяцыі Славістаў, на якой чатыры даклады былі прысьвечаныя беларускай тэматыцы. Даклады «Сьцюжа» Васіля Быкова — хроніка галяксоту беларускіх сялянаў», «Кася Камоцкая — жанчына на сцэне беларускага року», «Разьвіцьцё беларусаведы на Захадзе» былі прачытаныя на беларускай сэсіі, а даклад на тэму «Беларуская Цэнтральная Рада — калябаранты ці патрыёты» — на сэсіі, прысьвечанай гісторыі Усходняў Эўропы.

У сваім дакладзе, прысьвечаным аповесьці В. Быкава «Сьцюжа», прафэсар Унівэрсытэту Ватэрлё літаратуразнаўца др. Зіна Гімпелевіч заўважыла, што «Сьцюжа» застанецца ў беларускай літаратуры як адзін з найлепшых твораў В. Быкава: ня толькі дзеля простай, чалавечнай тэмы аповесьці ды пісьменьніцкага майстэрства аўтара, — бо ж усе творы Быкава маюць гэтыя рысы, — а перш за ўсё таму, што ў «Сьцюжы» аўтар праявіў глыбокую філязафічнасьць і гістарызм, характэрныя рэтраспэктыўнай навуковай працы.

Свой даклад этнамузыколяг прафэсар Унівэрсытэцкага Каледжу ў Вартбургу (ЗША) М. П. Сурвілла прысьвяціла выдатнай жанчыне й беларусцы ў мужчынскім сьвеце беларускага року — Касі Камоцкай. Дакладчыца затрымалася на тэаратычных пытаньнях у дасьледаваньні месца жанчыны ў заходнім року й паказала, у якой меры іх можна дастасоўваць да аналізу року беларускага.

У дакладзе на тэму разьвіцьця беларусаведы на Захадзе гісторык др. Янка Запруднік разгледзеў некаторыя аспэкты дасьледаваньняў на беларускую тэматыку ў ангельскай, францускай і нямецкай мовах у ЗША, Вялікай Брытаніі, Францыі, Нямеччыне й Аўстрыі. На пытаньне прысутных пра дасьледаваньне беларусікі ў Канадзе др. Гімпелевіч расказала аб беларусаведных сэсіях амаль на ўсіх канфэрэнцыях Канадыйскай Асацыяцыі Славіс-

*(Працяг на с. 4)*

# СЬВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ МІКОЛА ГАНЬКО

20 траўня 1999 году мы пахавалі Міколу Ганька, доўгагадовага старшыню Згуртаваньня Беларусаў Канады, ідэйнага беларуса, важнае зьвяно ў беларускім грамадзкім ды царкоўным жыцьці Таронта. Памёр Мікола 16 траўня ў веку, безь сямі дзён, 75-ці год.

Нарадзіўся ён 23 траўня 1924 году ў беларускай сялянскай сям'і на хутары Каляндзіно, што каля Маладэчна. Бацькі ягоныя, Аўхім і Марыя, заможныя уладальнікі хутара, выхоўвалі сына на добрага гаспадара ў хрысьціянскім духу.

У 1942 годзе васямнаццацігадовы Мікола стаецца сябрам Саюзу Беларускае Моладзі, дзе атрымвае падставовае беларускае нацыянальнае й арганізацыйнае ўзгадаваньне.

І пасьля, праз усё сваё даўгое жыцьцё, згодна з запаветам Францішка Скарыны, верыў, што мы «ня самі сабе нараджаемся на сьвет», а «для паспалітага дабра й Айчыны свае» павінны працаваць. Ён верыў, як сам на 50-я ўгодкі Згуртаваньне Беларусаў Канады казаў, што ЗБК дзейна праіснавала цэлае паўстагодзьдзе таму, што ад самога пачатку мела моцныя ідэалягічныя падставы. Ведала ЗБК, дзеля чаго яно было зарганізаванае й жыло ды працавала: дзеля захаваньня й разьвіцьця ў Канадзе беларушчыны — беларускае мовы, гістарычнае традыцыі ды наагул беларускае культуры. Дзеіла ЗБК апошнімі гадамі — пад ягоным кіраўніцтвам, каб жыла Беларусь і была незалежна. Такія былі ідэалягічныя асновы Міколы Ганька.

Пасьля вайны, апынуўшыся на эміграцыі, сьпярша ў Зальцбургу (Аўстрыя), пазьней у Таронце, Мікола Ганько адразу ўключаецца ў беларускае жыцьцё, бярэ ўдзел у стварэньні першае беларускае нацыянальнае арганізацыі — ЗБК. І амаль ад самога пачатку ён заўсёды вы-



конваў тую ці іншую функцыю ўва ўправе арганізацыі.

Як дзейны сябра ЗБК, ён удзельнічаў у куплі беларускага дому ў Таронце, сьпярша на Данадас 1000 (1954 год), пасьля на Сант Кларэнс (1956 год). Таксама быў адным з арганізатараў прыходу БАПЦ сьв. Кірылы Тураўскага ў 1954 годзе ў Таронце. У розных часох быў псаломшчыкам, кіраўнікам хору, старшынём царкоўнай рады.

У 1961 годзе Мікола Ганько ажаніўся з Марыяй Кулеш, якая сталася ягонаю паплечніцаю й супрацоўніцаю ў грамадзкай дзейнасьці.

Мікола Ганько шмат кадэнцыяў зьяўляўся й заступнікам старшыні Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады, ад 1990 году — сябрам Канадыйскага Фонду Дапамогі Ахвярам Чарнобылю ў Беларусі. У 1993 годзе, як сябра Згуртаваньня Беларусаў Сьвету «Бацькаўшчына», зарганізаваў паездку групы беларусаў з Канады на Першы Зьезд Беларусаў Сьвету ў Менску. На гэтым Зьезьдзе ён быў абраны сябрам Вялікае Рады ЗБС «Бацькаўшчына».

Як сябра Рады БНР ён ачаляў Канадыйскі Сэктар Рады БНР, а на 22-й Сэсіі Рады БНР у 1997 годзе быў абраны ў Прэзыдыюм Рады. Удзельнічаў у паломніцтвах да Беларускага Памятнага Крыжа, а пасьля Беларускага Памятнага Комплексу ў прошчы паўночна-амэрыканскіх пакутнікаў у Мідлендзе, Антарыё, Канада.

Сёньня яго ня стала між нас. 19 траўня ў пахавальным доме Ўладыка Мікалай адслужыў паніхіду, а 20 траўня ў Царкве БАПЦ сьв. Кірылы Тураўскага а 10 гадзіне раніцы над целам памерлага адправіў сьв. літургію й багаслужбу пахавальнага абраду. На канадыйскім могільніку Пайн Гіл ля дамавін вялі й плакалі абвінутыя бел-чырвона-белымі стужкамі кветкі. Пасьля багаслужбы прысутныя жменькамі зямлі зь Беларусі разьвіталіся зь Міколам. Старшыня Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады др. Р. Жук-Грышкевіч у сваім разьвітальным слове зьвярнулася да ўдавы: «Дарагая Марыя, прыміце ад нас — беларускага грамадзтва Канады ды айца Аляксандра Надсона з Англіі — нашыя сардэчныя спачуваньні. Ваша страта ня ёсьць толькі Вашай асабістай, яна ёсьць стратай для ўсяго беларускага грамадзтва. У асобе Міколы Ганька мы страцілі ідэйнага беларуса, дзеяча, поўнасьцю адданага беларускай вызвольнай справе» й закончыла слова зваротам: «Дарагі Мікола, Ты скрозь у беларускім жыцьці Канады — ды ці толькі Канады! – пакінуў свой творчы сьлед, пакінуў частку свае патрыятычнае беларускае душы. Таму мы Цябе ніколі не забудзем. Мы схіляем галовы перад Тваёй памяцьцю. Вечная Табе памяць і вечны супакой!»

Прамаўляла над магілай Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла. Жалобным «Сьпі пад курганам герояў» разьвіталіся мы зь Міколам Ганьком.

**Раіса Жук-Грышкевіч**

## АХВЯРАВАНЬНІ

| | |
|---|---|
| Р. Рагуля | 200 |
| Б. Данілюк | 30 |
| В. Камінскі | 30 |
| *З Аўстраліі (Aus$)* | |
| В. Шайпак | 100 |
| А. Груша | 50 |
| Й. Яшэнка | 50 |
| сп-ня Яцкевіч | 50 |
| У. Сідлярэвіч | 50 |
| сп-тва Кукель | 50 |
| Т. Лашук | 75 |
| П. Гуз | 50 |
| З. Кадняк | 50 |
| Т. Каралюк | 50 |
| Я. Барысевіч | 40 |

## АНОНСЫ

*(Працяг з с. 3)*

мацца на хвалі сусьветнага часу. Часапіс піша пра тое, пра што раней па-беларуску не пісалася. Шумны розгалас набыў нумар, тэмамі якога сталі «парнаграфія» й «Лукашэнка», чый «геній» аўтары часапісу разглядалі ў такім аголеным кантэксьце — нумар забаранілі прадаваць у кнігарнях.

Кожны з нумароў квартальніка (вялікафарматнага, у сучасным паліграфічным выкананьні) прысьвечаны пэўнай тэме, але побач зь ёю існуюць сталыя рубрыкі, сярод якіх «Хроніка», у якой выступаюць беларускія палітвязьні, гумарыстычны «Вожык», «Мастацтва», «Лірыка», «Кніжны агляд», «Кіно», «Геапалітыка» ды іншыя.

У рэдакцыі ёсьць на продаж нумар часапісу, прысьвечаны постмадэрнізму (**кошт US$6**), у якім друкуецца вострасюжэтны раман менскага «калектыўнага» аўтарства «Заўсёды сьветла каля турэмных муроў», творы А. Лукашука, А. Дынька, Ч. Букоўскага, Х. Л. Борхеса, Д. Кіша, урывак з новай кнігі былога міністра замежных справаў Беларусі І. Антановіча ды шмат іншых тэкстаў.

У ліпені зьявіцца новы нумар часапісу, прысьвечаны тэме «вялікая айчынная вайна», галоўная мэта якога — раскрыць мэханізм стварэньня гэтага савецкага міту. Часапіс перадрукоўвае з выданьняў ваенных часоў «Трывогу» Антона Адамовіча, «Страшны год» Францішка Аляхновіча, «Miensk siańnia» невядомага аўтара й урывак зь «Дзёньніка Ів. Ів. Чужанінава» Лявона Савёнка. Сярод сучасных тэкстаў must'амі гэтага чытальнага сэзону можна назваць страшнае апавяданьне Вячаслава Адамчыка «Леанарда», пра тое, як партызаны гвалцяць і забіваюць настаўніцу, і гратэскавы перапеў беларускай савецкай прозы — апавяданьне Валеркі Булгакава «Правільны выбар». Друкуецца вялікі фрагмэнт з кнігі Юрыя Туронка «Вацлаў Іваноўскі й адраджэньне Беларусі». Сярод іншых твораў можна адзначыць «Плач па Косаве» Ісмаіла Кадарэ ў рубрыцы «Прыпавесьць» і «Расейскія прэтэнзіі на рускую спадчыну» праф. Гарўардзкага Ўнівэрсытэту Эдўарда Кінана ў рубрыцы «Гуманістыка». Кошт гэтага нумару — **US$7**.

У ліпені ж выходзіць і спэцвыпуск часапісу «ARCHE» — кніга Лявона Юрэвіча пра Барыса Рагулю «Жыцьцё пад агнём». **Замовіць кнігу й нумары часапісу можна ў рэдакцыі: ARCHE, а/с 3, 220018 Менск, BELARUS.**

---

16 чэрвеня ў Мэльбурне, Аўстралія,

на 92-м годзе жыцьця спачыў адзін з найстарэйшых дзеячоў беларускае грамады ў Аўстраліі, сябра Рады БНР

**МІКОЛА НІКАН**

Рада Беларускае Народнае Рэспублікі, Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, рэдакцыя газэты «Беларус» выказваюць глыбокія спачуваньні сваякам і сябрам нябожчыка.

---

## 30 ТРАЎНЯ. МЕНСК. МЭТРО «НЯМІГА»

Думаю, у кожнага менчука, што знаходзіцца ўдалечыні ад сталіцы, пры вестцы пра трагедыю на станцыі «Няміга», адразу прамільгнула думка: а ці не пацярпеў нехта з маіх блізкіх, сяброў, знаёмых.

Пераглядаючы сьпісы загінулых прачытаў: БРЭЧКА ГАННА МІКАЛАЕЎНА, 1977 году нараджэньня.

З Ганулаю я пазнаёміўся ў 1995 годзе, калі выкладаў беларускую мову ў Менскім Дзяржаўным Лінгвістычным Унівэрсытэце. Ганна вучылася на беларускім аддзяленьні. Беларуская мова лілася зь яе вуснаў натуральна, лёгка, нязмушана. Яна была вельмі стараннаю студэнткаю, мілым, усьмешлівым чалавекам, добрай сяброўкай, спагадлівай да ўсіх, шчырай сяброўкаю, грала на флейце. Бялявая яснавокая прыгажуня з Маладэчны.

Чытаю сьпіс далей: САЎКА НАСТАСЬСЯ ВІКТАРАЎНА, 1981 году нараджэньня.

З гэтай дзяўчынай нас лучыць толькі прозьвішча. Я яе ня ведаў. Але думка, што яна магла быць маёй далёкаю сваячкаю, не пакідае мяне.

**Зьміцер Саўка**

## БЕЛАРУСАВЕДА...

*(Працяг з с. 3)*

таў, пачынаючы з 1989 году, а прысутная на сэсіі Івонка Сурвілла згадала аб беларусаведных канфэрэнцыях у Атаўскім Унівэрсытэце й Унівэрсытэце Кўінз у Кінг'стане, зарганізаваных Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва ў Канадзе. Да гэтага трэба дадаць тры кнігі на беларускія тэмы прафэсара Ўнівэрсытэту Альбэрты (Канада) др. Дэйвіда Марплза й публікацыі на беларускія тэмы Зіны Гімпелевіч і Марыі Паўліны Сурвіллы.

Маладая дасьледчыца Натальля Петрушкевіч зрабіла вельмі зьмястоўны даклад на тэму БЦР падчас Другой Сусьветнай вайны. Хаця яна й ня выкарыстала ўсіх даступных сёньня крыніц, але аб'ектыўна й цікава рэпрэзэнтавала знойдзеныя ёю матэрыялы. Трэба спадзявацца, што Натальля будзе працягваць дасьледаваньне гэтага пэрыяду нашай гісторыі.

Доўгія дыскусіі й шматлікія пытаньні пасьля кожнага дакладу былі доказам ня толькі зацікаўленьня прысутных беларускай тэматыкай, але й сьведчаньнем высокай якасьці ўсіх дакладаў.

**Ядвіня Вішневіч**